

Магілеўскі

# ВЫБАР

№ 8 (34)
Кастрычнік
2014 г.

Абласная Дэмакратычная Трыбуна


# Размова пра надзёнае

У памяшканні грамадскага цэнтра "Кола" у Магілёве 19 кастрычніка адбыўся круглы стол, прысвечаны праблемам карупцыі і рэфармавання сельскагаспадарчых прадпрыемстваў у Магілёўскай вобласці.

Удзел у круглым стале прынялі журналісты з розных рэгіёнаў Магілёўшчыны і спецыялісты ў галіне сельскай гаспадаркі, якія выступалі ў якасці экспертаў. Арганізавалі правядзенне мерапрыемства Выдавецкі цэнтр Магілёўскай рэгіянальнай кааліцыі дэмакратычных сіл і сябры Магілёўскай філіі ГА "БАЖ".

Сваё бачанне рашэння праблемы карупцыйных злачынстваў і недапушчэння парушэння правоў працаўнікоў вёскі пры правядзенні рэфармавання сельскагаспадарчых прадпрыемстваў выказалі былыя намеснікі старшынь раённых выканаўчых камітэтаў Мікалай Гердзій і Валерый Каранкевіч, а таксама былыя кіраўнікі сельскагаспадарчых прадпрыемстваў Магілёўшчыны Рыгор Кастусёў і Пётр Мігурскі.

Кандыдат эканамічных навук П.Мігурскі на прыкладзе Шклоўскага раёна засяродзіў увагу прысутных на «кругазвароце» былых асуджаных за карупцыйныя злачынствы ў "вертыкалі". *"Не паспелі ў Шклове схлынуць жарсці па затрыманні намесніка старшыні райвыканкама за злоўжыванні на пасадзе, як зноў інфармацыйны бум – на яго месца прызначылі раней асуджанага былога старшыню райсавета М. Паўловіча (!). Ці ўлада ўжо зусім меру згубіла ў гульнях з карупцыйнымі складнікамі? А можа гэтай уладзе некалі займацца карупцыяй і яна займаецца эканомікай? Ды не, бо зусім нядаўна галоўны прэзідэнцкі кантралёр па Магілёўскай вобласці Г.Лаўранкоў на паседжанні аблвыканкама прызнаў, што эканамічная сітуацыя ў Магілёўскім рэгіёне*



*пагаршаецца і неабходны аператыўныя меры па яе выпраўленні",* - адзначыў П.Мігурскі.

Р.Кастусёў прааналізаваў стан спраў з злачынствамі карупцыйнай накіраванасці ў Магілёўскай вобласці па выніках васьмі месяцаў 2014 г., а В.Каранкевіч у сваім дакладзе падрабязна распавёў пра наступствы непрадуманых рэформ сельскагаспадарчых прадпрыемстваў для жыхароў сельскагаспадарчых рэгіёнаў на прыкладзе Хоцімскага раёна, акцэнтаваўшы ўвагу ўдзельнікаў круглага стала на канкрэтныя незаконныя дзеянні чыноўнікаў мясцовай "вертыкалі".

Па выніках выступаў экспертаў адбылася працяглая дыскусія ўдзельнікаў сустрэчы наконт прыняцця неабходных мер для пераадолення карупцыйных злачынстваў у Магілёўскай вобласці. Незалежныя журналісты задавалі экспертам самыя розныя пытанні і атрымлівалі на іх падрабязныя адказы з прыведзеннем канкрэтных прыкладаў. У межах круглага стала кожны з яго ўдзельнікаў мог унесці свае прапановы наконт таго, што неабходна зрабіць для забеспячэння пастаяннага кантролю з боку грамадзянскай супольнасці за органамі ўлады ў рэгіёнах.

У выніку абмеркавання ўдзельнікі аднагалосна пагадзіліся, што практыку правядзення такіх нефармальных сустрэч трэба працягваць.

*Паводле spring96.org.*

► *Выступы П.Мігурскага і Р.Кастусёва друкуюцца ў гэтым нумары «Магілёўскага выбару».*

# ОТОВСЮДУ ПОНЕМНОГУ

В Могилевской области нигде не работающих граждан необходимо взять на контроль. Об этом заявил на областной видеоконференции председатель Могилевского облисполкома Петр Рудник. Он поручил соответствующим службам провести до 1 декабря мониторинг ситуации в районах и городах области на предмет выявления нигде не работающих граждан, постановки их на особый контроль и принятию мер по обеспечению их занятости.

По информации Главного статуправления Могилевской области номинальная начисленная среднемесячная заработная плата работников Могилевской области в январе-сентябре составила 5 261,6 тыс. рублей и уменьшилась по сравнению с августом 2014 г. на 0,8% (или на 47 тыс. рублей). Реальная заработная плата (рассчитанная с учетом роста потребительских цен на товары и услуги) в январе-сентябре по сравнению с аналогичным периодом прошлого года уменьшилась на 1,3%, в сентябре 2014 года по сравнению августом 2014 т.г. уменьшилась на 2%.

Численность населения Могилевской области на 1 июля 2014 г. составила 1070,8 тыс. человек. Естественная убыль населения в I полугодии 2014 г. по сравнению с соответствующим периодом 2013 г. уменьшилась на 35,3% и составила 1068 человек. В I полугодии текущего года в Могилевской области родилось 6487 детей, умерло – 7555 человек. В целом по области в I полугодии число умерших превысило число родившихся на 16,5% (в I полугодии 2013 года – на 26,3%).

*Подготовил Антон ДУБОЛОМОВ.*

# Карупцыя: мясцовыя асаблівасці

У апошні час барацьба з карупцыяй ў Беларусі разгарнулась аж на два франты: на рэспубліканскім узроўні, дзе бушуюць жарсці не жартоўных памераў, і мясцовым - з рознымі хітрыкамі ў адносінах да зладзюганаў і іншых карупцыянераў, якіх і трэба садзіць, і вельмі шкада, бо свае ж, сукіны дзеці. Але ж і змагацца з карупцыяй трэба, бо Прэзідэнт сказаў, што карупцыйныя працэсы здольны разбурыць любую, самую дасканалую сістэму – сацыяльную і эканамічную, і з'яўляюцца падставай для нарастання грамадскага пратэсту, чаго гэта ўлада вельмі баіцца на ўсіх узроўнях.

Трэнд жа карупцыйных злачынстваў у Беларусі, пачынаючы з 1989 г., калі было ўзбуджана толькі 112 спраў па фактах хабарніцтва, мае ўстойлівы характар штогадовага падвышэння. Ды толькі маштабы карупцыі зараз не тыя, нават у параўнанні з 1994 г. (500 спраў), калі да ўлады на хвалі барацьбы з карумпіраванасцю ўлады, і прыйшоў А.Лукашэнка. Праз дваццаць гадоў, у 2013 г., беларускія праваахоўнікі выявілі ўжо 1319 фактаў хабарніцтва, ці ў 2,6 разоў болей, чым на зары панавання "вертыкалі". За гэты прамежак часу красці "вертыкальшчыкі" навучыліся не горш за А.І.Карэйку, вядомага персанажа твораў Ільфа і Пятрова ("Залатое цяля"), а можа нават і пераўзышлі яго. Больш таго, чыноўнікі з цягам часу вынаходзяць шляхі прысабечвання дзяржаўных грошай у такіх напрамках, пра якія шараговы беларус ніколі не здагадаецца.

У Магілёве былы кіраўнік адукацыі гарвыканкама Я.Дуплеўскі пры саўдзеле са службовымі асобамі сярэдняй школы на працягу чатырох гадоў афармляўся па сумяшчальнасці настаўнікам факультатыўных заняткаў на ўмовах працоўнага дагавора, але фактычна заняткі не праводзіў. Прычыніў гарадскому бюджэту страты на 22 млн. рублёў, што цягне на 7 гадоў турмы.

Некалькі іншыя маштабы крадзяжу ў прадпрымальнікаў. Толькі што завершана справа супраць дырэктара магілёўскага ТАА "Будінвест", які фактычна выкарыстаў на свае патрэбы мэтавы аванс на будаўніцтва жылога дома ў памеры 1,7 млрд. руб., пералічанага на рахунак яго прадпрыемства КУП "УКБ Шклоўскага райвыканкама.

Былы сенатар-прадпрымальнік дырэктар магілёўскага ЗАТ "Палітэкс" В.Кастагораў абвінавачваецца ў недаплаце падаткаў на суму аж 150 тыс. долараў ЗША. Больш таго, ім таксама цікавяцца расійскія праваахоўнікі, бо ён яшчэ, аказваецца, грамадзянін Расіі і мае кватэру за паўтара мільёна долараў у самой Маскве.

Крымінальныя справы супраць намеснікаў Магілёўскага і Бялыніцкага райвыканкамаў (Арцёмчыка і Ерашэнкі), генеральных дырэктараў "Магілёўдрэва", "Фандока" і "Крычаўцэменташыфера" (Усава, Майкава і Скоцкага), цэлай групоўкі раскрадальнікаў сродкаў Крычаўскага райспажыўсаюза гавораць аб нейкай эпідэміі крадзяжоў сярод кіраўнікой "вертыкалі" і дзяржпрадпрыемстваў. У Магілёўскай вобласці таксама ўзбуджана 10 крымінальных спраў у адносінах да дэпутатаў мясцовых Саветаў 26-га і 27-га сазываў. Пры гэтым складваецца ўражанне непазбежнасці пакарання за ўчыненне злачынстваў, што працуе на аўтарытэт улады і праваахоўных органаў, - маўляў, недатыкальных у краіне няма.

Ды ці ўсё так добра ў барацьбе з карупцыяй на мясцовым узроўні? Паспрабуем разабрацца.

Усяго за 8 месяцаў гэтага года ў Магілёўскай вобласці ўзбуджана 146 карупцыйных спраў, арыштавана маёмасці на 2 мільярды рублёў – неблагі вынік на рэспубліканскім узроўні. У той жа час, толькі ў Шклоўскім раёне за першае паўгоддзе матэрыяльныя страты па карупцыйных справах склалі 2,1 млрд. руб., з якіх дабраахвотна вернута дзяржаве толькі 35,6 млн. руб. (1,7%), накладзены арышт на маёмасць абвінавачваных на 380 млн. руб. (18,1%). Ці ж гэта паказчыкі эфектыўнасці працы ў барацьбе з крыміналам?

Па-ранейшаму, першае месца па карумпаванасці ў вобласці займае сістэма аховы здароўя, на другім ідзе прамысловасць, далей з вялікім адрывам ідуць сельская гаспадарка, будаўніцтва і гандаль. Але ж, калі урачы бяруць хабар на ўзроўні 20-30 долараў, а ў турму ідуць максімум за якіясці там 300-500 долараў, то у будаўнікоў і гандляроў гэтыя сумы выклікаюць ці не ўсмешку: у круглянскай ПМК-266 адзін з кіраўнікоў прысабечыў 206 млн. руб., у Крычаве гандляры скралі мільярд рублёў, у Бабруйску пры правядзенні дзяржаўных закупак мясцовая службовая асоба стала багацей на 100 млн. руб.

Чаму ж крадуць чыноўнікі і кіраўнікі прадпрыемстваў ва ўмовах нарошчвання напалу барацьбы з карупцыяй? Міністр унутраных спраў І.Шуневіч лічыць, што ўся справа ва ўмовах, у якіх зараджаецца карупцыя. І дзе ж яна зараджаецца? Возьмем будаўніцтва. У 2013 г. КДК Магілёўскай вобласці прадухіліў завышэнне кошту будаўніцтва 101 аб'екта, фінансуемага з бюджэта на агульную суму 16,7 млрд. руб. Яшчэ 20,5 млрд. руб. "знайшлі" на будаўніцтве аб'ектаў дзяржпраграм. Не лепш справы ў ЖКГ вобласці: толькі прадухіленне аднясення на выдаткі звышнарматыўных страт у цеплавых сетках зберагло 3,7 млрд. руб. У АПК вобласці на закладцы пладоваягадных насаджэнняў неэфектыўна выкарыстаны 42 млрд. бюджэтных рублёў.

Галоўная ўмова для карупцыі, якая "аб'ядноўвае" розныя галіны эканомікі, адна – гэта дзяржаўная маёмасць, якую абслугоўваюць розныя кіруючыя ўстановы і незлічоныя безадказныя асобы. Для гэтай звязкі лішнімі з'яўляюцца дэмакратыя, незалежныя суды, недзяржаўныя СМІ і грамадскія аб'яднанні.

Зараз Беларусі патрэбны рэальна дзеючыя законы па барацьбе з карупцыяй. А то, што ж гэта атрымліваецца – сёння чыноўнік пры пасадзе, раскрадае народную маёмасць, арыштоўваецца праваахоўнікамі, піша прашэнне аб памілаванні Прэзідэнту, а потым атрымлівае неблагую пенсію. Характэрная асаблівасць для Беларусі – раскрадальнікі дзяржаўных грошай шукаюць паратунку ў галоўнага барацьбіта з карупцыяй! Фактычна ж створаны ўмовы для пазбягання злаўмыснікамі адказнасці за карупцыйныя ўчынкі.

Другая асабліваць мясцовай практыкі барацьбы з карупцыяй – недавер гэтым самым барацьбітам з боку рэспубліканскіх улад. Напрыклад, у Шклове "мерапрыемства" па затрыманні намесніка старшыні райвыканкама праводзіў рэспубліканскі следчы камітэт. Дарэчы, справу да гэтага часу вядзе Мінск.

Яшчэ адна асаблівасць мясцовай карупцыі – кругавая парука мясцовых чыноўнікаў. Валаводзяць, круцяць справы гадамі, ды яшчэ Прэзідэнта крайнім зробяць. Вось калі справа тычыцца праяўлення самастойнасці грамадзянамі, ці, не дай Бог, пападзе грамадзянін у лік апазіцыянераў – о, тады справы вырашаюцца хутка і вельмі прынцыпова.

Таксама асаблівасцю мясцовых карупцыйных спраў з'яўляецца вялікая разбежка ў памерах крадзяжоў. Калі чыноўнік "бярэ" мільярдамі (хабар, адкаты, "кватэрнае пытанне", падарункі), то шараговы зладзюган, ці хабарнік здавальняецца невялічкімі сумамі. Смешна, напрыклад, чытаць гнеўныя артыкулы аб хабары ўрачоў ў 20 даляраў за выдачу лістка непрацаздольнасці, хаця якраз хабарніцтвам шараговых урачоў, працуючых у бальніцах, вельмі занепакоены беларусы. Тым не менш, выстаўляючы на паказ вынікі барацьбы з нячэснымі ўрачамі ды выкладчыкамі ВНУ, сапраўдныя маштабы карупцыі мясцовыя ўлады стараюцца не афішыраваць – парушаецца вера ў святасць "вертыкальшчыкаў". Дарэчы, беларускі народ не вельмі і верыць у альтруізм і іншыя высакародныя намеры айчынных рупліўцаў -"прыкарытнікаў".

Наступная асаблівасць – кругазварот былых асуджаных у "вертыкалі". Па-добраму, дык з беларускіх уладных структур трэба вычышчаць уплывовых асоб с дзелавымі інтэрэсамі, патрабуючых злоужывання паўнамоцтвамі. Ды дзе там: не паспелі ў Шклове схлынуць жарсці па затрыманню намесніка старшыні райвыканкама за злоўжыванні на пасадзе, як зноў інфармацыйны бум – на яго месца прызначылі раней асуджанага былога старшыню райсавета М.Паўловіча (!). І дзе тут роля спадара



Г.Лаўранкова, галоўнага прэзідэнцкага кантралёра па Магілёўскай вобласці, бо кадравыя перастаноўкі ўваходзяць у кола яго абавязкаў. Ці ўлада ўжо зусім меру згубіла ў гульнях з карупцыйнымі складнікамі? А можа гэтай уладзе некалі займацца карупцыяй і яна займаецца эканомікай? Ды не, бо зусім нядаўна той жа спадар Лаўранкоў на паседжанні аблвыканкама прызнаў, што эканамічная сітуацыя ў Магілёўскім рэгіёне пагаршаецца і неабходны аператыўныя меры па яе выпраўленню.

Іншы прыклад: нядаўна Беларусь наведала прадстаўніца Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (АБСЕ) па пытаннях свабоды СМІ Дуня Міятавіч. Пакуль Дуня распіналася перад міністам замежных спраў У.Макеем і міністрам інфармацыі Л.Ананіч аб нейкім прагрэсе ў Беларусі ў справе затрыманняў журналістаў, у Магілеве рабіліператрус у кватэры вядомага журналіста А.Буракова. Не, не пасадзілі пакуль, але ўламілі добры штраф за тое, што калі-некалі кажа за мяжу праўду пра гэтую ўладу. Як гаворыцца, адчуйце розніцу паміж падзеямі. Адзін змагаецца за справядлівасць і караецца, а другі, былы асуджаны, мяняе ў прынцыпе будучага асуджанага ва ўладнай структуры. І гэта не цырк на дроце – гэта рэчаіснасць, ад якой хутка будзе плакаць уся Беларусь.

Дарэчы, у Бялынічах 14 жніўня адбыўся дзень рэдактара для кіраўнікоў рэгіянальных сродкаў масавай інфармацыі вобласці. Прысутныя "акулы пяра" абмеркавалі сучасныя падыходы ў развіцці мясцовых СМІ, наведалі мадэрнізаваны малочна-таварны комплекс і дамовіліся пісаць пра набалелае. Прайшло два месяцы – ніводнага матэрыяла ў раённых газетах аб ходзе барацьбы з карупцыяй па сваёй ініцыятыве мясцовыя журналісты так і не нарадзілі, пра набалелае чамусьці не напісалі, і крытычных матэрыялаў пра стан сельскай гаспадаркі мы не ўбачылі.

Рыба гніе з галавы… Не, я зараз не пра мінскіх кіраўнікоў, бо тыя ў большасці недасягальныя для праваахоўнікаў. Размова пойдзе пра раённую "галаву", якая ні за што карупцыйнае не адказвае, бо паперы падпісваюць падначаленыя, але пад чуткім кіраўніцтвам мясцовай "вершаліны" улады.

Вядома, што буйныя інвестары сустракаюцца у першую чаргу са старшынёй райвыканкама, прыёмку аб'ектаў робіць таксама ён, лагічна, што і ўсе прыемныя наступствы ад плённай супрацы з атрымальнікамі бонусаў выпадаюць таксама на яго долю. Карацей, у раёне больш усіх красці павінен "галава", а ў ніжэйшых па рангу падначаленых і "прыбыткі" суадносныя. Але чамусці старшынь райвыканкамаў у нашай вобласці даўно ўжо не затрымлівалі за хабар. І ці ёсць надзея, навогул, што мясцовыя праваахоўнікі замахнуцца ў сваёй барацьбе з карупцыяй на раённую вяршаліну злашчаснай праблемы? Мабыць, не, бо гэту "вершаліну" прызначыў на "кармленне" сам Прэзідэнт,

і “вертыкалі” не да твару распісвацца ў памылковым дзеянні ў дзяржаўнай справе. Ды і ці не ведалі адпаведныя структуры пра свавольствы “вяршаліны” на ранейшым месцы працы? Ведалі, але нікому не сказалі... Прэзідэнту не пашкодзіла б рассякаць такія карупцыйныя вузлы і адпраўляць за краты менавіта галоўных махляроў, бо “шасцёркі”, якія трапілі на лаву падсудных ды хуценька вярнуліся дадому, толькі азлабляюць мясцовае насельніцтва.

Але найперш патрабуюцца змены на ўзроўні дзяржавы – гідру карупцыі без дэмакратыі не задушыць, а з тым і не падняць на больш высокі ўзровень дабрабыт беларусаў. Як прыклад: рост ВУП на душу насельніцтва (па парытэце пакупніцкай здольнасці) ў нашай дэмакратычнай суседкі Літвы вырас з 12 968 дол. ЗША у 2004 г. да 23 399 дол. ЗША у 2012 г., у яшчэ адной краіне Еўразвязу Польшчы – з 13 009 да 22 162, а ў Беларусі – з 7 589 да 15 592. Пры гэтым, Літва і Польшча не з’яўляюцца часткай еўразоны, так што ў іх яшчэ большыя перспектывы развіцця. А розніца паміж краінамі-суседкамі толькі ў розных адносінах да дэмакратыі. Паказальна, што Беларусь у свеце займае 123 месца па ўзроўню карумпаванасці, на дзясяткі месцаў “апярэдзіўшы” Літву і Польшчу. Адзначым, што ў 2002 годзе Беларусь знаходзілась на 36 месцы.

Возьмем другую суседку, Расію, перад якой чыноўнікі на цырлах ходзяць ужо дваццаць гадоў. Найбольшы рост у Расіі фіксуецца ці не сярод алігархаў, але, колькасць мільярдэраў так і не перарасла ў якасць эканомікі. Найвялікшае дасягненне Расіі зафіксавана яшчэ на мяжы 1900-х гадоў, калі яна перагнала Захад. Але тады былі для гэтага перадумовы: спрыяльны для бізнеса інвестыцыйны і падатковы рэжым, незалежны суд (адносна, вядома), абарона праў маёмасці, ды і з палітычнымі свабодамі было лепей, чым зараз. Затое зараз Расія ніжэй за Беларусь у рэйтынгу карупцыйнасці на 4 месцы.

Пры чым дэмакратыя да эканомікі? Прафесар цэнтра палітычных даследаванняў Мічыганскага ўніверсітэта Рональд Інглхарт, які займаецца маніторынгам амаль ста краін, упэўнены, што толькі прыярытэт закона стымулюе мадэрнізацыю, толькі ў дэмакратычнай краіне гарантавана абарона праў уласніка і інвестара. Прымерце гэта да беларускай рэчаіснасці.

Ёсць пытанні і ў другім рэчышчы – чаго так чапляюцца чыноўнікі за дзяржмаёмасць? Адказ на паверхні – пакуль будзе дзяржмаёмасць, будзе і карупцыя. Але не ўсё так проста на Беларусі. Інсайдары сістэмы дзяржкіравання ўпэўнены, што ўсё ў Беларусі даўно падзелена. Пры тым, гэта зроблена акуратней, разумней і з большай надзейнасцю прававой аховы для рэальных бенефіціараў, чым, напрыклад, у Расіі. Вось чаму цяперашняй ўладзе патрэбны свае людзі на ключавых пасадах, незалежна ад узроўню сумлення ці прафесійных якасцяў.

У Беларусі казначэйская сістэма выканання бюджэта па даходах і выдатках (упраўленне дзяржаўнага казначэйства ўвайшло ў склад Галоўнага ўпраўлення Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь па Магілёўскай вобласці) павінна выключаць немэтавае выкарыстанне бюджэтных сродкаў. Але ж у апошнія гады ў Шклоўскім раёне бум на крадзяжы якраз бюджэтных сродкаў – сума толькі выяўленых фактаў вымяраецца 60 млрд. рублямі.

У мінулым годзе і ў першым паўгоддзі 2014 года кантрольна-рэвізійнае ўпраўленне вярнула дзяржаве 12 млрд. рублёў. Зараз праз казначэйскую сістэму ў Магілёўскай вобласці фінансуецца 2 444 арганізацыі і ўстановы, ёй кантралюецца звыш 85 тысяч дагаворных абавязацельстваў атрымальнікаў бюджэтных сродкаў. Пры ўсёй звышнапружанасці працы кантралёраў паспрабуйце купіць аловак без дазволу – не атрымаецца, не прапусцяць. Але як жа тады было дазволена Шклоўскаму ўпраўленню сельскай гаспадаркі сродкі на пакупку нецеляў на суму ў 4,2 мільёна еўра запусціць праз пасрэднікаў, дзе тыя грошы і сканалі? Атрымліваецца, што не ўсё чэсна і ў гэтай сістэме.

Ды каб жа гэта быў адзіны выпадак! Паволі ў Шклове забываюцца мінулагоднія карупцыйныя выкрунтасы – пазбег пакарання чарговы свавольнік с жылкамунгасу, які прысабечыў амаль паўмільярда рублёў. Так і не дакапаліся, куды знікла станцыя сартыроўкі бытавых адыходаў, на якую з абласнога бюджэту яшчэ ў 2005 годзе патрацілі 40 млн. рублёў. Дарэчы, у сістэме ЖКГ РБ неправамерна патрацілі ў мінулым годзе 1 трыльён рублёў – а гэта дзясятая частка кошту ўсіх паслуг ЖКГ. Карацей, дзе ні капні, усюды пагаспадарыла касматая рука чыноўніка.

… Усё часцей побач з чыноўнікамі Шклоўскага райвыканкама бачым святара мясцовай Спаса-Прэабражэнскай царквы, - пакуль, праўда, без кадзіла. Можа гэта і ёсць шклоўскі асаблівы шлях у барацьбе з нячысцікамі з “вертыкалі”? Можа, толькі Бог і дапаможа нам - калі няма сумлення ў чыноўнікаў?



***Пётр МІГУРСКІ.***

*Намеснік старшыні Партыі БНФ, кіраўнік грамадзянскай ініцыятывы “Шклоўскі магістрат” Рыгор Кастусёў 19 кастрычніка атрымаў уведамленне з Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб тым, што яго зварот перанакіраваны ў Магілёўскі аблвыканкам з даручэннем паведаміць аб выніках разгляду.*

*Чальцы “Шклоўскага магістрату” прапанавалі кіраўніку краіны вылучыць на пасаду старшыні Шклоўскага райвыканкама Пятра Мігурскага, кандыдата эканамічных навук, які стала пражывае ў Шклоўскім раёне. Па іх меркаванні, сучаснае кіраўніцтва Шклоўскага раёна ў вачах людзей ператварылася ў касту недатыкальных з вялікімі асабістымі прыбыткамі і без адказнасці за вынікі сваёй працы.*

*Р.Катусёў паведаміў, што зараз ён пачакае адказу з Магілёўскага аблвыканкама, а потым распачне канкрэтныя дзеянні.*

# Змаганне з карупцыяй на дзяржаўным узроўні

Па сведчаннях шматлікіх міжанародных і беларускіх экспертаў, імклівы рост карупцыі ў Беларусі распачаўся менавіта пасля жорсткага разгону Плошчы 2010 года. Пасля чарговага "пераабрання" А.Лукашэнкі на пасаду прэзідэнта беларускія чыноўнікі адчулі сваю беспакаранасць і ўседазволенасць.

Так, згодна дакладу міжнароднай неўрадавай арганізацыі Transparency International, у 2011 годзе карупцыя ў Беларусі расквітнела, і нашая краіна па гэтых паказчыках толькі за адзін год скацілася з 127 на 143 месца ў свеце, падзяляючы яго з Азербайджанам, Расіяй, Угандай і Нігерыяй.

Пагоршыўся на 0,1 і індэкс успрыняцця карупцыі, які склаў 2,4, супраць 2,5 у 2010 г. Разлічваемы індэкс успрыняцця карупцыі вызначае ўзровень карупцыі ў дзяржсектары – ад 0 (самы высокі ўзровень карупцыі) да 10 (карумпаваных чыноўнікаў амаль няма).

Найлепшыя паказчыкі ў свеце па памерах індэкса маюць Новая Зеландыя (9,5), Данія (9,4), Фінляндыя (9,4). Самы высокі ўзровень карупцыі ў Самалі (1,0) і Паўночнай Карэі (1,0).

Па тых мерах у барацьбе з карупцыяй з боку кіраўніцтва нашай краіны і разнастайных сілавых ведамстваў, што агучваюцца ў дзяржаўных СМІ, можа скласціся ўражанне, што ў хуткім часе гэтаму цмоку і сапраўды будзе адкручана галава. Ды і паказчыкі, прыводзімыя для прыкладу, сведчаць, падаецца, аб паляпшэнні сітуацыі ў гэтым плане.

Па сведчаннях прэс-службы Генеральнай пракуратуры РБ, да прыкладу, толькі ў Магілёўскай вобласці за першае паўгоддзе 2014 года зарэгістравана 131 злачынства карупцыйнай скіраванасці (супраць 157 за першае паўгоддзе 2013 г.). З іх 32 (супраць 50) – крадзёж шляхам злоўжывання службовым становішчам, 22 (22) – злоўжыванне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі, 7 (3) - перавышэнне ўлады або службовых паўнамоцтваў, 58 (36) атрыманне хабару, 12 (39) – дача хабару.

Карупцыйныя злачынствы зарэгістраваны ў сферах аховы здароўя – 61 (29), прамысловасці – 27 (21), адукацыі – 9 (11), будаўніцтва 9 (9), гандлю – 9 (9), сельскай гаспадарцы – 9 (24), дзяржаўным кіраванні - 6 (4).

Найбольшае зніжэнне ўзроўню карупцыі па сведчаннях Генпракуратуры адбылося ў сельскай гаспадарцы Магілёўшчыны, што і дало, як падаецца, станоўчыя зрухі па агульнаму выніку, пры тым, што ў астатніх сферах перамен да лепшага не адбылося.

Што ж такое здарылася станоўчае, што карупцыя ў сферы сельскай гаспадаркі за першае паўгоддзе 2014 г. знізілася больш чым у 2,5 раза ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага году? Няўжо меры сілавых структураў паспрыялі гэтаму або чыноўнікі на сяле сталі больш сумленнымі?

Ды ўсё вельмі проста. Зніжэнне карупцыі ў сельскай гаспадарцы Магілеўшчыны адбылося, як вынікае, па той простай прычыне, што ў 2014 годзе рэзка скараціліся бюджэтныя фінансавыя ўліванні, паступаючыя ў гаспадаркі вобласці. А ў чыноўнікаў зменшыліся магчымасці для паўнення сваіх асабістых кішэняў.

Нярэдка яшчэ і беларускія сілавікі дзеля атрымання прыгожай карцінкі прыбягаюць да маніпуляцый лічбамі.

Так, 20 чэрвеня 2014 года ў пракуратуры Магілёўскай вобласці (як паведамляецца на сайце www.prokuratura.gov.by) быў праведзены круглы стол на тэму "Супрацьдзеянне карупцыі ў сучасным грамадстве". У дадзеным мерапрыемстве прынялі ўдзел намеснік пракурора Магілёўскай вобласці Сільвановіч, начальнік аддзела па барацьбе з карупцыяй і арганізаванай злачыннасцю пракуратуры Магілёўскай вобласці Волкаў, рэктар Магілёўскага дзяржуніверсітэта ім.Куляшова Бандарэнка, дэпутат Савета рэспублікі Нацыянальнага сходу РБ Марзалюк, прадстаўнікі Магілёўскага аблвыканкама, студэнты і выкладчыкі вышэйназванага універсітэта.

У сваім выступе намеснік пракурора Сільвановіч адзначыў, што за прайшоўшы перыяд 2014 года на тэрыторыі вобласці выяўлена 350 эканамічных злачынстваў, 101 – карупцыянай скіраванасці. З іх у сферы аховы здароўя – 41, прамысловасці – 17, гандлю і адукацыі толькі па 1. Як бачна, дадзеныя, прыведзеныя намеснікам пракурора



вобласці на круглым стале яўна разыходзяцца з вышэй прыведзенымі лічбамі Генпракуратуры.

Удзельнікі стала адзначылі паспяховасць працы сілавога ведаства ў барацьбе з карупцыяй і паніжэнне яе ўзроўню ў параўнанні з мінулымі гадамі.

**Праз маніпуляцыю лічбамі беларускае кіраўніцтва імкнецца дасягнуць больш высокага месца для Беларусі ў сусветных рэйтынгах карумпаванасці. Дзеля такога поспеху беларускія ўлады пайшлі нават на змены Крымінальнага кодэкса. І з пераліку карупцыйных злачынстваў у 2011 годзе былі выключаны чатыры артыкулы: 427 (службовы падлог), 433 (атрыманне незаконнага ўзнагароджання), 228 (кантрабанда), 290-1 (фінансаванне тэрарыстычнай дзейнасці).**

**Пасля гэтага ў карупцыйным спісе засталіся наступныя артыкулы: 210 (крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі; 235 ч.2, ч.3 (легалізацыя матэрыяльных каштоўнасцяў, набытых злачынным шляхам, здзейсненая службовай асобай з выкарыстаннем сваіх службовых паўнамоцтваў); 424 ч.2,ч.3 (злоўжыванне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі з карыслівай або іншай асабістай зацікаўленасці; 425 ч.2,ч.3 (бяздзейнасць службовай асобы з карыслівай або іншай асабістай зацікаўленасці; 426 ч.2,ч.3 (перавышэнне ўлады або службовых паўнамоцтваў, здзейсненых з карыслівай або іншай асабістай зацікаўленасці; 429 (незаконы ўдзел у прадпрымальніцкай дзейнасці; 430 (атрыманне хабару); 431 (дача хабару); 432 (пасярэдніцтва ў хабарніцтве); 455 (злоўжыванне ўладай, перавышэнне ўлады ці бяздзейнасць улады, здзейсненыя з карыслівай або іншай асабістай зацікаўленасці).**

Сярод кіраўніцтва сілавымі ведамствамі вітае ідэя далейшай карэктыроўкі карупцыйнага спісу з чарговым выдаленнем шэрагу артыкулаў. І гэта будзе знoўку прыпаднесена як поспех у змаганні са шматгаловым цмокам-карупцыяй.



*Рыгор КАСТУСЁЎ.*

# Василий Леонов:

## *Беларусь может прокормить 30 миллионов человек*

***А.Лукашенко пригрозил завалить Россию белорусскими продуктами, а министр сельского хозяйства и продовольствия даже назвал конкретные цифры: АПК Беларуси может увеличить поставки сельхозпродукции на 40-50%. По плечу ли белорусским аграриям столь амбициозные планы? Способен ли сегодняшний убыточный АПК на такие подвиги? Как реформировать агропромышленный комплекс, чтобы действительно завалить Россию продуктами, не посадив на голодный паек самих белорусов?***



**"Сельское хозяйство Беларуси способно прокормить 30 миллионов человек. Потенциально этого можно достичь за 7-10 лет. Созданная Богом земля, климат и даже люди позволяют достичь такой цели. Так что слова министра сельского хозяйства не преувеличивают наши возможности, - говорит бывший министр сельского хозяйства Василий Леонов . - В 1996 году я положил окончательные расчеты и президенту, и тогдашнему премьеру Михаилу Чигирю. Спустя два года после того, как нам удалось вывести на конкурентное производство птицу и свинину, министерство подсчитало, что мы способны приобретать 60% нефти и газа от всей потребности Беларуси только за счет продуктов питания. Мы не считали ни калий, ни машиностроение. Мы способны увеличить поставки своей сельхозпродукции в два раза".**

*По данным за 2011 год, большинство продовольственных товаров (89%) Беларуси продавалось на российском рынке, 6% — в других странах СНГ и лишь 5% — за пределами стран СНГ. Чтобы увеличить поставки продукции наполовину, ее надо произвести. Не останутся ли белорусы сами с пустыми прилавками?*

**"Мы живем – хотим этого или нет – в условиях рыночной экономики, где главное не товар, а деньги, - говорит Василий Леонов. - Российский рынок по-прежнему открыт, что благоприятствует развитию сельского хозяйства. Нас с картошкой, с мясом не пустят в Европу; даже если откроют границы – нашу продукцию никто не возьмет, потому что это регулируемый рынок. А российский рынок открыт – в этом и состоит преимущество наших аграриев".**

**В.Леонов считает, что увеличение поставок белорусской продукции в России не приведет к проблемам на потребительском рынке страны: "Европейцы привезут нам всё, что надо. Африканцы, американцы, азиаты, европейцы – все с удовольствием повезут к нам сельхозпродукцию".**

**Но Василий Леонов убежден, что сельское хозяйство нуждается в реформах: "Надо дать людям свободу. С одной стороны, надо дать возможность работать инициативным предприимчивым людям. Но этого мало. Россия дала эту свободу, но там ничего не получается. С другой стороны, необходимо правильное государственное регулирование. Применительно к сельскому хозяйству – это защита рынка, защита производителя. Ведь белорусское сельское хозяйство производит достаточно много неплохих продуктов. Но их нет в гипермаркетах! Чтобы попасть в сеть распространения, говорят, надо много дать “под столом”.**

**Чтобы делать реформы, собственник должен быть свободным, ему государство должно всячески помогать и защищать, убежден Василий Леонов. И тогда Беларусь сможет накормить три Москвы: "Мы можем спокойно накормить 30 миллионов человек. Мы ориентируемся на уровень вчерашнего дня – предложения-то мы готовили в 96-ом году. Если мы достигнем такого уровня науки, как в Голландии, тогда мы сможем говорить и про все 60 миллионов. Голландия занимает второе место в мире по производству сельхозпродукции, хотя по территории как Минская область".**

*Паводле www.belaruspartisan*

# Очередная смена вывески

## ПРЕДИСТОРИЯ

Как известно, 17 июля этого года Александр Лукашенко подписал четыре указа касающихся предстоящей реформы в агропромышленном комплексе Беларуси. За время нахождения у власти Александра Григорьевича было предпринято несколько попыток реформировать сельское хозяйство страны, сделать его работу эффективной, а условия жизни населения максимально приблизить к городским. Но по большому счёту, все они в основном касались изменения структуры управления, замены одних вывесок на другие и пересадки чиновников из одного управленческого кресла в другое. Вначале были Министерство сельского хозяйства, Министерство мелиорации и водного хозяйства, Министерство мясной и молочной промышленности, Белмежколхозстрой. Потом появился Государственный агропромышленный комитет, в настоящее время функцию управления осуществляет Министерство сельского хозяйства и продовольствия. Были колхозы, затем появились СПК, но суть их организации и функционирования не поменялась. Государство, в лице местных чиновников, «управляло» сельскохозяйственными кооперативами (коллективная собственность) не менее жёстко, чем государственными (государственная собственность) совхозами. На практике, между ними нет никакой разницы, за исключением того, что председатель СПК «избирается» членами кооператива, но контракт с ним заключает местная вертикаль.

## НЕКОТОРЫЕ НЮАНСЫ

Согласно указа №349 «О реорганизации колхозов (сельскохозяйственных кооперативов» колхозы (СПК) в срок до 31 декабря 2016 года подлежат преобразованию в хозяйственные общества или коммунальные унитарные предприятия. Сразу же надо сказать, что колхозы, которые изначально создавались как производственные кооперативы, таковыми реально не являются. Основная причина такого положения,— безграмотное решение вопроса о паевых взносах членов кооператива и их учёте, хотя их имущество являлось основой имущества колхоза. Учёт имущества не налажен, так же не были определены доли (паи) членов колхоза. Сегодня нельзя назвать хотя бы одного примера, когда на практике, при выходе из колхоза его член получал бы свою долю в натуральном или денежном выражении. И это при всём том, что, согласно Указа №49 от 2.03.2001 года, был утверждён Примерный устав колхоза (СПК), в котором подробно был прописан вопрос создания, реорганизации, деятельности колхозов, членства и выхода из них, получения права на «долю дохода (прибыли) или продукции, подлежащих распределению на его денежные и имущественные взносы, а также средства долевого фонда, если это предусмотрено уставом колхоза». В практике колхозной жизни ничего подобного нет. Основной причиной такого положения является практически поголовная юридическая и экономическая безграмотность не только простых колхозников, но и подавляющего числа руководителей и специалистов хозяйств, специалистов управлений сельского хозяйства и продовольствия райисполкомов, председателей райисполкомов. Практически во всех хозяйствах АПК области и Чериковского района в частности отсутствуют грамотные юристы. Не вдаваясь в другие многочисленные нюансы поднятой темы, можно однозначно говорить, что качественного выполнения Указа №349 «О реорганизации колхозов (СПК)» не будет, а значит говорить о какой-то реформе АПК просто смешно.

*Вадим ЗАБРОДОВ.*

# Найдут ли клеветников?

Могилевские журналисты Игорь Борисов и Алесь Бураков написали заявления в милицию и прокуратуру Могилёва на размещение в интернете о них клеветнических материалов.

**Все публикации размещены на сайте http://voskresinfo.com, практикующем размещение клеветнических материалов об общественных и политических активис-тах Могилева и области.**

От правоохранительных органов Борисов и Бураков требуют найти лиц, сочинивших на них доносы, а также привлечь их к ответственности в соответствии с законодательством. Кроме того, независимые журналисты просят ограничить доступ к этому сайту с территории Беларуси.



Алесь Бураков



Игорь Борисов

***- Пишут разные глупости. Все факты оскорбительные. Надоело об этом читать, тем более, что время от времени неизвестным лицом практикуется еще и рассылка этих материалов другим общественным активистам. Не отрицаю того, что к этому могут иметь руку и спецслужбы***, - говорит Игорь Борисов.

Надо отметить, что местом регистрации владельца сайта является г. Одесса в Украине, а принадлежит он ОАО "Технологии будущего". Это известно по результатам ответа общественному активисту из Хотимска Валерию Коронкевичу, который ранее обращался в правоохранительные органы по поводу клеветнических материалов, размещённых на этом сайте. Тогда милиционеры сумели установить, где зарегистрирован этот сайт, однако найти и привлечь к ответственности тех лиц из числа могилевчан, которые занимаются его наполнением, не удалось.

*Паводле http://spring96.org*
*Фота http://voskresinfo.com*

## ЗНОЎ ШМАТЛІКІЯ ПАРУШЭННІ

Больш за 130 млн. рублёў падаткаў дадаткова паступіла ў бюджэт па выніках праверкі дзейнасці Клімавіцкага лікёра-гарэлачнага завода, праведзенай Камітэтам дзяржкантролю Магілёўскай вобласці. Акрамя таго, кантралёрамі выяўлены звышнарматыўны расход 442 тыс.кВт.ч электраэнергіі коштам больш за 500 млн. рублёў, незаконнае карыстанне грашовымі сродкамі прадпрыемства, што пацягнула прычыненне яму шкоды на суму больш за 4 млн. рублёў, шматлікія парушэнні парадку ажыццяўлення разлікаў, водакарыстання, вядзення бухуліку і касавых аперацый, уліку бланкаў строгай справаздачнасці, патрабаванняў тэхнічных нарматыўных прававых актаў у галіне метралогіі, прадстаўлення дзяржаўнай статыстычнай справаздачнасці, разгляду зваротаў грамадзян і іншыя. Па выніках праверкі 14 службовых асоб прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці. Матэрыялы праверкі перададзены ў праваахоўныя органы для прававой ацэнкі дзеянняў службовых асоб.

## СЯРЭДНІ ЎЗРОСТ МУЖЧЫН МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ - 37 ГАДОЎ

На Магілёўшчыне колькасць мужчын складае 503,1 тыс. чалавек, або 46,9% ад агульнай колькасці насельніцтва. Сярэдні ўзрост моцнай паловы чалавецтва на пачатак бягучага года склаў 37,4 года. Пры гэтым у мужчын, якія пражываюць у гарадах і гарадскіх пасяленнях, сярэдні ўзрост менш, чым у мужчын, якія пражываюць у сельскай мясцовасці (адпаведна 36,3 і 41,2 года). Сярэдні ўзрост мужчын менш, чым у жанчын на 5,4 года. Захоўваецца значная розніца ў працягласці жыцця мужчын і жанчын, якая склала ў 2013 годзе 10,6 гадоў (66,4 гады ў мужчын і 77 гадоў у жанчын). У свеце «натуральнай» розніцай прынята лічыць 5 гадоў.

## У ПРАДУКЦЫІ МАГІЛЁЎСКАГА МЯСАКАМБІНАТА ЗНАЙШЛІ “ЧУМУ СВІНЕЙ”

Геном афрыканскай чумы свіней (АЧС) выяўлены ў прадукцыі яшчэ аднаго мясакамбіната Беларусі - Магілёўскага. Пра гэта паведамілі ва Усерасійскім НДІ ветэрынарнай вірусалогіі і мікрабіялогіі. Геном выяўлены ў палове прадстаўленых на аналіз пробаў прадукцыі. Першы выпадак быў зафіксаваны ў пачатку кастрычніка - геном АЧС быў выяўлены ў прадукцыі Аршанскага мясакамбіната. Пасля гэтага Рассельгаснагляд увёў ўзмоцнены маніторынг свініны і прадукцыі свінагадоўлі, якія паступаюць з Беларусі. Асаблівую трывогу новы выпадак выклікае ў сувязі з тым, што АЧС, па дадзеных беларускага боку, не рэгістравалася ў Магілёўскай вобласці. Расійскі бок не выключае, што інфармацыю пра захворванне жывёл хавалі. Дэпартамент ветэрынарнага і харчовага нагляду Мінсельгасхарча Беларусі стварыў камісію, якая зоймецца расследаваннем па гэтых фактах. Для чалавека АЧС не ўяўляе небяспекі.

## КВЕТКІ ДЛЯ ВЫКЛАДЧЫКА ТАКСАМА МОГУЦЬ БЫЦЬ ХАБАРАМ

Учым адрозненне паміж падзякай выкладчыку ў выглядзе падарунка і хабарам? Юрыдычныя тонкасці дадзенага пытання растлумачыў пракурор Мінска Сяргей Хмарук падчас сустрэчы з калектывам Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі: *“Хабар можа быць дадзены толькі службовай асобе за яго дзеянні па службе. Калі выкладчык на экзамене атрымлівае кветкі і я як праваахоўнік дакажу, што гэтыя кветкі былі дадзены яму за станоўчае рашэнне пры выстаўленні адзнак, то гэта будзе лічыцца хабарам. Таму што выстаўленне адзнакі - гэта юрыдычна значнае дзеянне*”. Іншымі словамі, варта адрозніваць падарунак як знак павагі да прафесійных і чалавечых якасцей выкладчыка і падарунак як сродак уплыву на выстаўленне адзнак. Дарэчы, у адпаведнасці з Крымінальным кодэксам РБ дача хабару караецца папраўчымі работамі на тэрмін да 2 гадоў, або арыштам на тэрмін да 6 месяцаў, ці абмежаваньнем волі на тэрмін да 2 гадоў, або пазбаўленнем волі на тэрмін да 5 гадоў Дача хабару паўторна або ў буйным памеры пагражае абмежаваннем волі на тэрмін да 5 гадоў або пазбаўленнем волі на тэрмін ад 2 да 7 гадоў.

## ДРЫБІН - РЭСПУБЛІКАНСКІ ЛІДЭР



Летась у Дрыбіне нарадзілася 62 дзіцяці. Улічваючы, што тут пражывае крыху больш за 3 тысяч жыхароў, то ў суадносінах да тысячы чалавек - гэта самы высокі паказчык у Беларусі ці 20,7 на 1000 чалавек. Для параўнання - самая нізкая нараджальнасць па статыстыцы назіраецца ў Зарэччы Гомельскай вобласці - 4,8 на 1000 чалавек. Наш райцэнтр і ў далейшым не збіраецца саступаць першынство. Ва ўсякім выпадку, як паведамілі ў раённай бальніцы, колькасць народжаных дрыбінцаў ў гэтым годзе больш чым на траціну перавысіла леташні вынік. Па стане на 24 кастрычніка у дрыбінскіх матуль нарадзілася 99 дзяцей.

*Падрыхтаваў Міхась БАРАЗНА.*

Магілёўскі ВЫБАР

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адрас рэдакцыі: 213155, Магілёўская вобласць, Магілёўскі раён, в.Брылі, вул.Юбілейная, 6-7. Тэл. 8-0222-710451
E-mail: mikolabryl@gmail.com. Выдавец Яцкова Ала Міхайлаўна.
Наклад 299 асобнікаў. Фармат А-4. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 26.10.2014 г. у 10.00.